№ 84 Ausgabe B.

# ГОМАН

Цэна с перэсылкай і дастаукай да хаты: на 1 год—4 м. 80 фэн., на ½ году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы — 1 м. 20 ф., на 1 мес. — 40 фэн.

Беларуская Віленская часопісь
выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.
Адрэс рэдакціі: Вільня, Завальная 7.
Адрэс адміністрацыі і экспэдыцыі: М. Стэфанская 23.

Цэна абвестак: на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі — 25 фэніг.; дробные абвесткі — па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці — 60 фэн. за лінейку дробн. друкам.

№ 84 (176). Год II. Вільня, 19 кастрычніка 1917 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.).

# 10.000 палонных, 50 гармат.

## 18 кастрычніка.

**Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго*: На фронці Фляндрыі артылерыйская бітва ізноў крапчэла. Пры Драэйбанк адбіты наступленьня сільных дружын разведчыкоў. Між каналам Лябассэ і Скарп і на поўдні ад С. Кантэн — разведачные стычкі і агонь.

*Фронт нямецкаго Насьледніка*: На паўночным усходзі ад Суассона у апошніе дні развівалася баталія, катоpая ўчора пашырылася на фронт ад даліны Айет да Брэ. Ад Эн да Маасу агонь так сама узмацаваўся. На паўночна усходнім фронці пад Вэрдэнам, на вяршыне 344, на ўсходзі ад Самонье, нашы разведачные атрады ўварваліся на варожые пазыціі, зруйнавалі часць сховак, а людзей часьцю закалолі, часьцю ўзялі ў палон. У вечары ворагі зрабілі дзьве контр-атакі, катоpые былі адбіты.

---

Учора збіты 13 варожых самалётаў.

У адказ на налёт ворагоў на Франкфурт на Майне мы ізноў абкідалі бомбамі Нансі.

**Усходні тэатр.**

Падрахунак дабычы на востраві Эзэлі паказвае:

Узяты ў палон 10.000 душ з дзьвех расейскіх дывізій. На Моон уцякло толькі некольні сот душ. Здабыты 50 гармат, у тым ліку некольні цяжкіх узбяржных, ды некольні палявых батарэй, шмат аружжа і ваенных матер'ялоў. Часьці нашаго флота дайшлі цераз міны Рыжскай затокі да палуднёвнаго выходу вялікаго Моонзунда, куды адступілі каля 20 расейскіх ваенных судзен. Расейскіе батарэі на Моон і на эстляндзкім узбярэжжы прымушэны змоўкнуць. Другіе часьці нашаго флота стаяць у усходняй часьці Кассар-Віка і адрэзалі праход на заход.

---

Між Дзьвіной і Дунаем — без вялікіх бітв, ня лічучы неўдачных расейскіх разведак.

---

ПЕЦЯРБУРГ. Урад пазволіў вывазіць у Амерыку усе тые тавары, вываз катоpых быў дагэтуль забаронен.

ЦЮРЫХ. „Corr. d. Sera" даносіць с Пецярбурга, што дзеля рэорганізаціі расейскаго флота прыехалі ў Пецярбург англійскіе адміралы.

РЫМ. (В.Т.Б.). Дэпутаціі парляментоў саюзьніцкіх старон адбылі супольную нараду. Устаноўлена праграма супольнай нарады ў Лондоне і вернена згодлівасць паглядоў прэдстаўнікоў усіх саюзных парляментоў.

---

*Вільня, 19 кастрычніка.*

15 кастрычніка мінуло сто гадоў ад дня сьмерці вялікаго байца за волю народаў, Тадэуша Косьцюшкі. А с прычыны таго, што Косьцюшко найбольш сіл сваіх аддаў дзеля справы Польскай Рэчыпосполітай, польскае грамадзянство памянуло память яго, як польскаго нацыянальнаго героя.

Мы не здарма назвалі Косьцюшку «байцом за волю народаў»: бо душа яго не зачынялася ў вузкіх рамках інтэрэсоў аднаго народу, а абнімала справу волі ўсіх народаў, катоpые стагналі пад уціскам чужынцоў і паўставамі да барацьбы за вызваленьне. Вось, чаму Косьцюшко перш за ўсё услявіўся перад усім сьветам, едучы ў 1776 годзе у Амэрыку, дзе сваёй крывёй бараніў справу волі амэрыканцоў проці уселякіх напасьцей на яе. Вось, чаму і мы, беларусы, памінаем Косьцюшку ў сталетнюю гадаўшчыну яго сьмерці,—тым болей, што ён—кроў с крыві і косць с косьці беларускаго народу.

Аб тым, што Косьцюшко—беларускаго роду, адкрыта пішуць самі польскіе гісторыкі. У кніжцэ Т. Корзона „Kim i czem był Kościuško" (Варшава 1907) мы на самым пачатку чытаем, што прашчур Тадэуша Косьцюшкі, Канстантын, сын Тодара, служыўшый пры дварэ Вялікаго Князя Літоўскаго, а пасьля Караля Польскаго, Зыгмонта I (ў пачатку XVI сталецьці), „быў русін, с племі беларусаў, зваеваных калісь куніґасамі, значыць: каралямі ці князямі літоўскімі". Ад 1509 году да роду Косьцюшкоў належаў двор Сехновічы—на зямлі Беларускай, у поўчварта мілі ад Брэста, а ад 1729 г. бацька Тадэуша перэбраўся ў двор Марачоўшчыну, каля цяперашняй станціі Коссоў, Масвоўска-Брэсцкай чыгункі, і тут радзіліся ўсе яго дзеці.

Чамуж Косьцюшко, вярнуўшыся з Амэрыкі, пайшоў на службу у польскую армію, — чаму бараніў Польскую Рэчыпосполітую?

Адказ на першае пытаньне лёгка знайсьці: бо Польскай дзяржаве грэзіла няволя. А калі сабе ясна прыпомнім, што пад той час да Польскай Рэчыпосполітай прыналежаў і Беларуска - Літоўскі Край, дык будзем мець адказ і на другое пытаньне: бароначы Польскую дзяржаву, Косьцюшко бароўся і проці заўладаньня роднай Беларусі чужынцамі..

Косьцюшко—не адзіны с-паміж сыноў зямлі Беларускай, аддаваўшых свае сілы Польскай Рэчыпосполітай. І ў гэтым німа нічога дзіўнаго: бароньючы Рэчыпосполітай, усе яны служылі і сваёй Бацькаўшчыне, ўхадзіўшай у склад Польскай дзяржавы. Але славу сваімі геройскімі ўчынкамі яны прыдбалі чужым, гэтым самым прычыніўшыся да забыцьця аб народзі Беларускім ..І затым-то, успамінаючы слаўные імёны гэткіх сыноў нашаго народу, мы ўспамінаем іх не бяз горэчы, катоpую змягчае толькі сьвядомасць, што не злая воля, а ліхіе для нас гістарычные варункі былі прычынай утраты нашым народам гэткіх найлепшых сіл яго.

Цяпер мы стаім напярэдадні новай долі нашаго Краю. Вялікая сусьветная вайна суліць нам вызваленьне нашай Бацькаўшчыны, як самабытнай дзержавы. І вось тут перад грамадзянамі зямлі нашай адкрываецца вялізарнае поле да працы не для чужых, а для сваіх. Тут сыны беларускаго народу, аддзеленые ад яго чужой мовай і чужой культурай, могуць навязаць нанова разарваную ніць еднасьці між нашай інтэлігенціей і народнымі массамі. Работа ў гэтым кірунку ўжо пачалася: рады беларускіх грамадзкіх працаўнікоў узмацовываюцца ўсё новымі сіламі—тымі прэдстаўнікамі краёвай інтэлігенціі, катоpые адчуваюць сваю звязь з народам беларускім. І мы верым, што ўсе прэдстаўнікі старых беларускіх родаў, катоpые ў часах чужацкай нявелі сталі здалёк ад нас, пойдуць з намі поплеч у будаваньні новай, вольнай будучыны роднай Беларусі.

---

## Урадовая мова у Літве.

Літоўская газэта «Lietuvos Aidas», манючыся будаваць літоўскую дзержаву ў межах «маленькай Літвы", абнімаючы і беларускую віленшчыну, пішэ ў № 12 аб тым, якая мова павінна тут быць урадовай. Аўтор стацьці, п. А. С., заверае, што літвіны хочуць прызнаць беларусам, жыдом і палякам права на учасьце ў культурнай рабоці. У мысль гэтаго літоўская конфэрэнція «прызнала патрэбным і правільным» даць нацыянальным меншасьцям мейсцо ў літоўскай радзе. Але п. А. С. вымагае ад меньшасьці „пашаны правоў большасьці", чаго дагэтуль не было. „Літоўская мовай пагарджалі роўна ўсюды—як на вёсцы, так і ў месьці, ў публічным жыцьці і ў культурнай працы". І вось цяпер „трэба больш гаварыць аб абароне языка ня меншасьці, а большасьці". „Прэдстаўнікі меншасьці, демократы і не-дэмократы, пачуўшы, што ў будучай Літве літоўская мова мае быць прызна-

на краёвай (урадовай), здзівіліся. Яны без ніякага тлумачэньня разумеюць, што абавязковай для ўсіх грамадзян краю ў Польшчы павінна быць мова польская, у Расеі—расейская; калі-ж гутарка ідзе аб Літву, дык у нашых меншасьцей лёгікі нехватае“.

Дарма п. А. С. жаліцца на „меншасьці“, далучаючы да іх числа і беларусоў, каторых, дзякуй Богу, утрая больш за літвіноў! Дарма, бо вінаваты тут самі літвіны, каторые маюць вялікі апэтыт абярнуць у літоўскую чыста беларускую віленшчыну, ды нават часць гродзеншчыны. Беларусы ніколі на згодзяцца іграць роль «меншасьці» пры літвінох: яны хочуць еднасьці ўсіх Беларускіх і Літоўскіх зямель на аснове роўных правоў абодвых народаў. Само сабой разумеецца, што ў супольнай Беларуска - Літоўскай дзержаве на зямлі, дзе народ гаворыць па літоўску, літоўская мова павінна мець правы урадовай: але літоўскіе нацыяналісты хочуць яе навязываць і там, дзе па літоўскі ніхто гаварыць не ўмее, а пасьля дзівуюцца, што беларусы і другіе ня хочуць яе!

Мы, беларусы, маем сваю беларускую мову, каторай нашы ворагі дый людзі цёмные ешчэ нідаўна пагарджалі так сама, як літоўскай. Але народ наш ужо зразумеў, што толькі трымаючыся роднай мовы беларускай ён здалее абараніцца ад усіх спроб абертаць беларусоў у маскалі, у палякі, ці ў літвіны. І ён дасць належны адпор гэтым спробам, скуль бы яны ні ішлі.

*Г. Б.*

## У Беларусі пад Расеяй.

**Беларускі рух сярод беларускаго каталіцкаго духавенства.**

Яшчэ перад вайной беларускі рух сярод каталіцкаго духавенства ў Магілоўскай дыяцэзіі быў вялікшы, чымся ў дыяцэзіі Віленскай. Ў Магілёўскай дыяцэзіі так сама вышэйшымі польскімі касьцельнымі ўласьцямі быў уціск усяго беларускаго, але там гэтые ўласьці не отварылі тых жалезных пут, якімі і цяпер скаваны ксяндзы - беларусы ў Віленскай дыяцэзіі.

Пад час наступленьня немцаў на Вільню лічба ксяндзоў беларусаў у Магілёўскай дыяцэзіі была павялічэна тымі ксяндзамі, сьвядомымі беларусамі, што пакінулі Віленскую дыяцэзію. Так сама лічба сьвядомых клерыкоў Магілёўскай сэмінарыі у Пецярбурзе была павялічана некаторымі клерыкамі з Віленскай сэмінарыі.

Я ня буду вылічаць падробна працы ксяндзоў беларусаў у Беларусі пад Расеяй, скажу тыкеля, што праца іх, ня гледзючы на цяжкіе варункі, была вялікая. Працавалі дзеля усьвядамленьня народу і дзеля пашырэньня друкаванаго слова у беларускай мове. І тая, і другая праца дала свае добрые рэзультаты.

Працавалі ня толькі ксяндзы на парахвіях, але і студэнты ў Пецярбурскай духоўнай акадэміі, а так сама клерыкі ў сэмінарыях Магілёўскай і Жытамірскай.

У акадэміі ёсць добра арганізаваны шчыра беларускі гурток; тут студэнты пазнаюць гісторыю свайго краю, намечаюць мэты, якіе павінен дапяць беларускі народ і шчыра працуюць дзеля гэтых мэт. У гуртку, між іншым, ёсць сэкціі гісторыі Беларусі, літэратурная сэкція і сэкція беларускай музыкі і песьні. Знаёмства з гісторыей свае Бацькаўшчыны у студэнтаў вельмі глыбокае. Гэтаму памагае і добра наладжэная бібліотэка кніг беларускіх і аб Беларусі. Але асабліва задзіўляе ўсіх новапрыбылых беларускі хор у акадэміі. Нідзе так добра не пастаўлена беларуская песьня і ня схоплена і аддадзена беларуская мэлёдыя, як у хоры гэтаго гуртка.

Ня ведаю добра лічбы сьвядомых беларусаў у акадэміі і Пецярбурскай сэмінарыі, ведаю толькі, што яна вялікая. Аб гэтым можаце судзіць яшчэ с таго, што на чужыне, у Жытамірскай сэмінарыі, у каторую з Беларусі едуць вельмі рэдка, на ўсіх 60 клерыкоў ёсць 15 сьвядомых беларусоў.

У пачатку рэвалюцыі да вядомых ужо працаўнікоў-ксяндзоў прылучылося яшчэ болей новых, каторые раней, спагадаючы беларускай справе, баяліся ісьці з беларускім рухам дзеля тых варункаў, якіе зробіў для беларускаго адраджэньня стары расейскі ўрад. Праца пайшла шырака і шыбка, ксяндзы беларусы закладалі бел. арганізацыі (таварыствы, гурткі), робілі і выступалі ў духу беларускім на зборнях, пачалі памалу, але становча і усюды брацца за казаньня па беларуску і інш.

Гэткая грамадзянская праца часьці каталіцкаго духавенства знайшла сабе спогад і веру ня толькі сярод беларусоў каталікоў, але і сярод праваслаўных беларусоў. У шмат месцох ксяндзы беларусы выбраны прэзэсамі валасных і іншых камітэтаў [1]) і гэта стала звычайным нават у такіх валасьцях, дзе праваслаўных шмат больш, чымся католікоў.

Як прыклад, скажу аб кс. Шолкевічу.

Кс. Шолкевіч быў вікарым, а цяпер пробашчам у Мосары, Дзісенскаго павету. Парахвія гэта раскідана вельмі далёка, бо каталікоў у воласьці у некалькі разоў меней, як праваслаўных. Ня гледзячы на гэта, кс М. Шолкевіч быў аднагалосна выбраны прэзэсам валаснога камітэту,—адзначаю тут, што не чуваць было, каб хоць адзін с ксяндзоў палянізататоў быў выбраны у які-нібудзь камітэт. І запраўды, гэта немагчыма, бо воласьці чыста каталіцкіе, або прынамсі з вялікашсьцяй каталікоў у Беларусі на той бок фронту вельмі рэдкі, дык хоць бы гэткаму ксяндзу і пашчасьціло абаламуціць беларусоў каталікоў, праваслаўные за ім ніколі ня пойдуць.

Так сама, апрача некалькіх здарэньняў, дзе сьвяшчэнікі-сьвядомые беларусы, нават у валасьцёх чыста праваслаўных сьвяшчэнікі нідзе ня былі выбраны ў камітэты. Наадварот, с пачатку рэвалюцыі адносіны між праваслаўнымі і іх сьвяшчэнікамі вельмі завострэны.

Сёлета 23 марца на беларускім з'ездзі у Мінску былі прэдстаўнікі і ад ксяндзоў.

Як быў выбраны Цэнтральны Беларускі Нацыональны Камітэт, беларускае каталіцкае духавенство паслало ў Камітэт ад сябе прэдстаўнікам кс. Годлеўскаго (скончыў сэмінарыю ў Вільні і акадэмію у Пецярбурзі).

У канцы мая ў Мінску быў з'езд беларускаго каталіцкаго духавенства. Арганізатары з'езду паслалі запросіны на з'езд тыкеля тым ксяндзом, аб каторых ведалі, што яны запраўды сьвядомые беларусы. З'ехалося больш сотні ксяндзоў. З'езд быў 4 дні. На ім між іншым былі прачытаны рэфэраты аб гісторыі Беларусі (кс. Годлеўскі), аб беларускім руху (кс. Лісоўскі) і якіе павінны быць адносіны каталіцкаго духавенства да адраджаючагося беларускаго народу (кс. Бобіч [1]). З'езд прыняў гэткую рэзолюцію:

1) Шырокая аўтаномія Беларусі ў Расейскай фэдэратыўнай дэмократычнай Рэспубліцы.

2) Навучаньне ў школах па беларуску.

3) Увядзеньне памалу ў касьцёлах казаньня і дадатковаго набажэнства ў беларускай мове.

4) Прасіць Мітрапаліта, каб у Пецярбурскай духоўнай акадэміі і Магілёўскай сэмінарыі у Пецярбурзі было навучаньне беларускае мовы і гісторыі Беларусі.

5) Прасіць Мітрапаліта, каб кс. беларусы з Жытомірскай і іншых дыяцэзій былі пераведзены у парахвіі на Беларусі.

6) Склікаць у хуткім часе у Магілёве, ў Беларусі, з'езд каталіцкаго духавенства, а так сама агульны з'езд усіх ксяндзоў на Беларусі. На гэтым апошнім пастаноўлено, між іншым, зажадаць, каб праца ксяндзоў на Беларусі, бяз розніцы, да якой нацыі яны належаць, была беларускай.

На гэтым з'ездзі пастанавілі ў Пецярбурзі выдаваць беларускую газэту «Бацькаўшчына». Газэта гэта штодзенная, друкуецца лацінскімі літэрамі ў друкарні Пентковскаго. Гэну друкарню на з'ездзі пастанавілі купіць за 75 тысяч рублёў. Рэдактарамі «Бацькаўшчыны» выбраны кс. Хвэдзько і кс. Годлеўскі.

На з'ездзі было закладзен выдавецкае таварыство, катора мае перш на перш выдаваць беларускіе кніжкі да навучаньня школах.

Намецілі закладаньне беларускіх школ у восень.

*Янучонак.*

[1]) У Расеі цяпер скасаваны валасные ўправленьня, а замест іх зроблены валасные камітэты Гэтые камітэты кіруюць усім жыцьцём у воласьці.

[1]) Кс. Боб ч, як пачалася вайна Італіі з Нямеччынай, з Рыму, дзе вучыўся у Collegium Germanicum, вярнуўся на Беларусь. Цяпер кс. Бобіч у Друі.

## У Вільні і ваколіцах.

× **Памяці Тадэуша Косьцюшкі.** У Беларускім Клюбе пры пaмінаньні памершаго сёлета беларускаго песьняра, Максіма Богдановіча, ў мінулую нядзелю, прамоўцы памінaлі такжэ і слаўнаго сына зямлі Беларускай, Тадэуша Косьцюшкі, байца за волю Амэрыкі і Рэчыпосполітай.

× **Нямецкі імперскі канцлер у Вільні.** Галава нямецкаго імперскаго ураду прыбыў у панядзелак

## II. Гістарычные і ваяцкіе песьні.

(Гл. «Гоман» № 66—83).

**Братабойство.**

Ох, у полі, полі ні дым, ні туман,
Ды ў тым тумане тры войскі стаялі:
Ой, ў першым войску коні заржалі,
А ў другім войску шабліззвінялі,
А ў трэйцім войску стала навіна.
Якая навіна? Брат брата забіў,
А забіўшы брата стаў, лісты пісаць.
Ой, ня ўспела маці лісты прачытаць,
Ды прысьпела маці сыночка пытаць:
„А мой ты сыне, дзе брата падзеў?“
—„А я табе, маці, ўсю праўду скажу:
Любілі мы, маці, адну панну,
Ды ехалі мы, маці, праз адзін двор,
Скацілася шапачка з галоўкі далой,
А я яго прасіў, ён не падняў.
Выняў я, маці, ваструсенькі меч.
Зняў я яму, маці, галоўку с плеч“.

**Туга па сям'і.**

Зашумела ялінaчка позна у паўночы,
Затужыўся бел малойчык, на вайну едучы,
Затужыўся, занудзіўся і стаў паміраці...
„Ах вы, брацьця-чужапанцы, учыніце волю,
Прывядзіце мне коніка ды з усею збруяй.
Заржы, заржы сівы коню, хоць раз падамною,
Каб зачула мая маці у доме!“

**Выбары у паход.**

Развівайся, сыры дубе,
Пакуль мароз будзе;
Прыбярыся, сыну, ў панцыр,
Зараз паход будзе.
Дуб марозу не баіцца,
Пышна развіваецца;
Сын паходу не баіцца
У зброю прыбіраецца.
Ой, сеў сабе на коніка,
Нізенька скланіўся:
„Выбачайце вы, суседзі,
Можэ пасварыўся“.
Матка ў яго запытала:
„Калі будзеш госьцем?“
—„Як у сенях на памосьце
Травіца выросьце!“

**Жаль па забітым на вайне мужу.**

Як выйду я на вулачку,
Ўсе мужы з вайны едуць,
Майго ні чуваць, ні відаць.
Майго мілаго толькі конік бяжыць,
На тым коніку сядзельцэ ляжыцэ,
На сядзельцы хустачка шаўкова.
Ехалі каля ваконца, ўкінулі ў ваконцэ,
Я думала хусту шаўковую,
Аж кашульку крывавую,
А з вялікімі прыгрозамі:
Каб без вады вымыта была,
Бяз ветру высушэна была,
Без качалак сьлізка выкачана.
Я малада дагадліва была:
Сьлёзкамі бела вымыла,
Цяжка ўздыхаючы высушыла,
Ручкі ломючы сьлізка выкачала.

**Пра Радзівілла.**

У нядзельку параненьку
Загадаў кароль на службу
Усім князём, усім баярам,
Усім слаўным малойцам.
А там маці прабывала,
Яна тое прачувала,
Радзівіллу прабуджала:
„Устань, устань, мой сыночэк:
Вот жаньнерыкі надходзяць,
Самапалы, шаблі носяць!“
—„Адступіся, маці, адступіся;
Дармо, маці, не журыся:
Я тром-пяцём не паддамся!“
От, тры швэды наскачылі
Радзівіллу ухапілі,
Зараз ножанькі скавалі,

у нашае места. Разам з ваеннымі і адміністрацыйнымі ўласьцямі ён аб'ехаў места, агледаў яго з Замковай гары і быў у работных пакоях.

У аўторак у палудзень канцлер выехаў з Вільні.

× **Скорая помач** за апошні тыдзень дадзена ў 72 прыпадках. Карэтка выежджала ў 34 прыпадках.

× **Апавешчэньне.** На аснове апавешчэньня з 21 жніўня 1917 г. аб здачы медных клямак, прылад да вокан, ручэк і штаб перад вокнамі крам гаспадары або упраўляючые, ці паўнамочнікі выехаўшых з Вільні гаспадароў нерухомасьцей пры вуліцах Стэфанскай, Малай Стэфанскай, Шырокай, Крупянай, Шпітальнай, Ашмянскай, Жмудзкай, Шавельскай, Сьв. Мікалая, Жыдоўскай, Усіх Сьвятых, Басаках, Коннай, Базыльянскай, Мільённай і Субоч—с прычыны прысылкі ўжо клямак на замену — ешчэ раз прызываюцца здаць усе паменёные рэчы з іх дамоў у Metalannahmestelle пры Stadthauptmann'е, Домінікавская 3, пакой 90, на нізу, не пазьней 24 кастрычніка 1917 г. ад 8 да 1 гадз. перад абедам, або ад 4 да 8 гадз. пасьля абеду.

× **Апавешчэньне.** На аснове апавешчэньня з 27.VII. 1917 г., дзеля паддтрыманьня ладу ў народных страўнях для народу, сярэдніх станоў дый, наагул, ва ўсякіх публічных страўнях выдаецца гэткая інструкція:

1. Страву можна выдаваць толькі асобам, як мае быць запісаўшымся у сваей страўні і, падаючы адрэзкі хлебовых карт на зупу, паказваючым кожын раз свае пастаянные карты на хлеб і зупу.

2. На пастаяннай карце на зупу аб кожнай выдачы зупы трэба рабіць знак.

3. У кожнай страўні трэба вясьці акуратна загаданую кнігу дзеля запісоў аб запасах прадуктоў, і ў ей кожын дзень і кожын тыдзень выпісываецца баланс.

4. Кніга запасоў прадуктоў і спіс сталаўнікоў павінны лежаць пры кассе страўні дзеля прагляду іх.

5. У кожнай публічнай страўні павінен быць пры кассе і ў мейсцу выдачы стравы вывешэн выразна напісаны па нямецку спіс выдаваных страў і зуп.

6. Памяшчэньня стравень і складоў прадуктоў трэба утрымліваць у чыстасьці, а нумеры стравень вывешываць на відочным мейсцы на вуліцы і пры кассе.

7. Загады кіраўнічых органоў Stadthauptmanna і урадоў стравень павінны выпаўняцца без ніякіх спорак. Кіраўнікі стравень, не спаўняючые гэтых загадоў, незалежне ад другіх пастаноў аб кары, будуць караны на моцы § 139 расейскага статута аб карах.

× **Тэмпэратура.** Найвышэйшая і найніжэйшая тэмпэратура за апошніе дн была (па Цэльсію):

| | найвыш. | найніж. |
|---|---|---|
| 14—15 | +17° | + 7,5° |
| 15—16 | +12,5° | + 9° |
| 16—17 | + 9° | + 3,5° |



## З усяго Краю.

**Свабода веры.**

Глаўнакамандуючый на усходзі выдаў гэткі прыказ:

„Загады расейскага статута аб карах, каторые даюць асабліваю зашчыту расейскай урадовай царкві, маюць далей сілу настольку, наскольку яны згодлівы з асновамі нямецкаго упраўленьня".

Гэтак адкрываецца поўная свабода для мешаных шлюбоў, а так сама дзеля хрышчэньня дзяцей незалежне ад таго, да якой веры належаць бацькі.

---

БЕЛАСТОК. На Салдацкай вуліцы зладзеі ўварваліся ў колоніяльную краму і укралі тамака больш за 6.000 штук папірос, шмат перцу, цыкоры і кавы.

СУВАЛКІ. Збор бульбы ў тутэйшых ваколіцах надта багаты, Кожын цэнтнэр насеньня даў сярэднім лікам 18 цэнтнэроў бульбы. Бульбіны вагой 1 кілогр.—ня рэдкасць.

РЫГА. „Rig. Deutsche Ztg." будзе выхадзіць што-дзень апрыч нядзель і сьвят. За рэдактароў будуць вядомые рыжскіе журналісты Бруцэр і Цэпфэль. У першым нумэры газэта заяўляе, што яна — безпартыйная, але будзе служыць нямецкім інтэрэсам. Газэта будзе друкавацца ў друкарні бышай "Rig. Tagebl.".

РЫГА. 22 кастрычніка тут адкрываецца нямецкая почта дзеля прыватнай карэспандэнціі і пасылкі тэлеграм.

Апублікованы гэткіе загады: аб заяўцы прэтэнзій аб грошы да асоб, жывучых у Нямеччыне; аб павіннасьці прынімаць расейскіе грошы ў марках да 1 руб., расейскае золата па курсу 2 м 50 фэн. і расейскае серэбро —2 м. 40 ф. за рубель; аб заяўцы ўсіх мужчын ад 17 да 45 гадоў дзеля атрыманьня пазваленьня на жыцьцё; аб назначэньні найвышэйшых цэн за стрыжку валос; аб цэнах для рамізьнікоў; аб павіннасьці прынімаць «нямецкіе рублі»; аб аддачы зрабаваннаго пры адходзі расейцоў дабра.

ОСТРАЎ ЭЗЭЛЬ Востраў Эзэль, каторы цяпер заваевалі немцы, занімае абшар 2.618 кв. кол. і мае 65.000 жыхароў, перэважна эстон-

---

Назад ручанькі звязалі.
Радзівілла стрэпянуўся,
Усе жалежы паляцелі
І вяроўкі загудзелі!
Схапіў шаблю, востры меч,
Пагнаў швэдоў у сьвет прэч.

## III. Песьні с сямейнаго і грамадзянскаго жыцьця.

**Жонка няроўня.**

Ой, за лесам-лесам, за залёным гаем,
Ані месяц сьвеціць, ані сонцэ грае.
Там маладзенец коніка седлае;
Коніка седлае, цяжэнька ўздыхае,
Што ўзяў князёўну, ды не сваю роўню,
Па дварэ ходзіць, ключыкамі звоніць;
У хату увойдзе, ўся дружына ўстане,
І шапкі знімае: Сядзь, сядзь князёўна
З намі прастакамі, пій, пій князёўна
Піво водку з намі.

Чэравічкам тупне: „атступіся глуне",
Чэравічкам бразьне, „адступіся, блазьне!"

**Сын і нявестка.**

Паехац сынок аж на Украіну,
Туды паехаў не жаніўшыся,
Адтуль прыехаў жаніўшыся.
Ой вышла маці іх перэймаці:
Сына вітала чырвоным віном,
А нявестку белай атрутай.
Сын віна ня піў, на каня узліў,
Белую атраву нявестка выпіла.
Няўмела маці нас перэймаці,
Умей-жэ маці нас пахаваці,—
Сына убрала ў тонку кітайку,
А нявестку у тосту рагожу.
Сына везла шасцьма канямі,
А нявестку сьляпой кабылай.
Сына хавала перад касьцёлам,
А нявестку аж за касьцёлам,
На сына магіле вырас явар зялёны,
А на нявесткі—бела бярозка.
А расьлі, расьлі дый пахінуліся,
У мейсцо вяршочкі згарнуліся.

**Душагубніца.**

А ў нядзелю па абедзі
Хадзіў Пан Бог
Па ўсім сьвеці,
Па ўсім сьвеці жабруючы,
Сваіх людзей мілуючы,
Зустрэй Пан-Бог панну ў лесі,
Панна ідзе, ваду нясе.
„Чэкай, панна, дай вадзіцы,
„Дай вадзіцы са крыніцы
„Памыць рукі, сьвяты ногі."
—„Мая вада ўся нячыста,
„Нападало дрэва, ліста".
—„Мая вада ўся сьвячона,
„А ты, панна, саграшона;
„Мела сабе сыноў сем,
„Ні аднога не хрысьціла,
„Усіх марна пагубіла,
„Дрэвам, лістам прытрусіла".
—„Хтож ты, дзеду, ты прарок?"
—„Не прак, я сам Бог".
Панна Бога распазнала,
Перад Богам крыжам пала.
„Устань, панна, не лякайся,
„Ідзі ў царкву, спаведайся".
Толькі дзеўка ў царкві стала,
На сем сажон земля ўпала,—
С целам, з душою дзеўка прапала,
С целам грэшным пад суд вечны,
Пад суд вечны астатэчны.

цоў. Разам у астравамі Моон і Руно, Эзэль станавіў у Ліфляндзкі асобны павет. У пачатку XIII ст. астраў занялі даньчыкі. У 1227 г. астраўілюдзей захапілі крыжакі, ахрысьцілі іх гвалтам і далі ім біскупа. У 1559 г. біскуп Мюнхгаўзэн прадаў астраў Эзэль Даніі, катораяу 1645 гаду адступіла яго Швэціі. У 1721 г. разам с Фінляндзіей Эзэль быў далучэн да Расеі.

## ВЕСТКІ З РАСЕІ.

ШТОКГОЛЬМ. Ня гледзячы на цяжкое ўражаньне ад заняцьця Эзэля немцамі, барацьба між буржуазнымі партыямі і большэвікамі трывае далей.

Перад англіцкім пасольствам і Зімовым палацам былі дэмонстрацыі проці Англіі. Урад быў прымушэн пасьлаць войска.

ШТОКГОЛЬМ. Заняцьце Эзэля немцамі сьвяткавалі шмат у якіх рэстаранах і чайных на Выборскай старане ў Пецярбурзе. Пры гэтым гаварылі, што разгром тэй ці іншай з ваюючых старон набліжае мір.

ЛОНДОН. «Times» пішэ с Пецярбурга, што тамтэйшые дыплёматы баяцца, што ў гэту зіму Керэнскій самавольна зробіць мір. «Times» вінаваціць Керэнскаго, быццым ён затым хочэ замірэньня, каб пасьля заняць мейсцо прэзыдэнта расейскай рэспублікі.

ЛЮГАНО. «Giornale d' Italia» пішэ, што на парыжскай конфэрэнціі саюзьнікоў ня будзе прэдстаўніка Расеі.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). «Нов. Жізнь» пішэ, што сьледзтво проці генэрала Корнілова спынено.

Тымчасовы ўрад адлажыў адкрыцьце падгатавіцельнаго парляменту на 20 лістапада. Распусьцяць яго за 8 дзён перад адкрыцьцем устаноўчаго сайму, а выбары ў апошні пачнуцца 25 лістапада, і ён адкрыецца 13 сьнежня.

У Харкові і Тамбове узняліся пагромы.

Служачые ва ўсіх аптэках Пецярбурга забаставалі на экономічным грунці.

ШТОКГОЛЬМ. Швэдзкая газэта «Dagen Nyheter» даносіць, што пецярбурскіе страхавые таварыствы прынімаюць на страхоўку пакінутае дабро выежджаючых с Пецярбурга асоб па 60 руб. за 1000 руб. да прыходу немцоў і па 40 руб. — пасьля прыходу. «Реч» горка жаліцца, што страхавые таварыствы больш даверают нямецкім ваенным уласьцям, чым свайму ураду.

ГЭЛЬСІНГФОРС. Конфлікт між цэнтральным камітэтам балтыцкаго флоту і тымчасовым урадам ізноў стаўся вастрэйшым. Цэнтральны камітэт заявіў, што ён больш ня будзе весьці перэгаворы с тымчасовым урадам, а толькі з радай раб. і салд.

ПЕЦЯРБУРГ. (П.Т.А.). Керэнскій захварэў на інфлюэнцію. Ен астаецца у глаўнай кватэры і ляжыць у пасьцелі.

ПЕЦЯРБУРГ. Першая партыя расейскіх палітычных эмігрантоў, ехаўшых у Штокгольм і задзержаных радай раб. і салд., вярнулася назад.

## З усяго сьвету.

ВАРШАВА (В.Т.Б.). Рэгенцкая рада Польшчы складаецца с 3 асоб: арцыбіскуп Каковскі, б. прэзыдэнт места кн. Любомірскі і земляўласьнік Язэп Остроўскі.

КОНСТАНТЫНОПОЛЬ (В.Т.Б.). Нямецкі імператар прыехаў сюды, спатканы султанам і ўласьцямі і урочыста вітаны народам.

БЭРЛІН. *Палата паноў.* Група лібэральных членаў падала праект закона аб учасьці работнікоў у норміроўцы варункоў працы ў прамысловых прадпрыемствах.

ЛЮГАНО. У італьянскім парляманцкі міністэр-прэзыдэнт Бозэлі сказаў, што гутаркі аб скорым міры толькі аддаляюць яго.

Галава социялістоў, Гэнрыко Фэрры, і 40 дэпутатоў падалі рэзолюцію, прэдлагаючы ураду ўчыніць крокі дзеля набліжэньня канца вайны.

ЛОНДОН. Пачаўшаяся гэтымі днямі забастоўка у баваўняных фабрыках у Ольдаме разрастаецца і абняла ўжо 70 фабрык.

## ТЭЛЕГРАМЫ.

### Нямецкіе апавешчэньня:

**16. X. Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго:* У Фляндрыі без перамен. У Артуа адбіты наступленьня англічан.

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* Пад Суассон'ам — жывейшы артылерыйскі агонь. Пры Воклер адбіты два новые наступленьня французоў. На заходзі ад Сюіп і на заходзі ад Маасу узяты чысьленые палонные і некалькі кулемётаў.

**Усходні тэатр:**

Нашы войскі пад камандай генэрала Катэна занялі ўжо глаўную часць острава Эзэля. Адрэзаные на полуострові Сворбэ англіцкіе войскі ешчэ упорна бароняцца. Дагэтуль узяты больш за 2.400 палонных, 30 гармат, 21 кулемёт, некалькі самалётаў. У Рыжскай затоцы мы занялі астравы Руно і Абро.

На іншых часьцях усходняго фронту без перамен.

*Македонскі фронт:* У даліне Струмы боўгары аддалі англічанам часць абшару.

**17. X. Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго:* Ад Ізэра да Ліс, у Фляндрыі, артылерыйская бітва ізноў вельмі крапчэла.

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* На поўначы ад Суассон агонь крапчэў праз увесь дзень і не спыняўся ў начы. У заходняй Шампані, у Аргоннах і на ўсходнім беразі Маасу агонь ізноў дайшоў вялікай сілы.

Збіты ўчора 10 самалётаў і 1 прывязны шар.

Мы абкідалі бомбамі Нансі, дзе відаць былі вялікіе пажары.

**Усходні тэатр:**

Адпор варожых сіл на полуострові Сворбэ зломлен. Гэтак увесь астраў Эзэль у нашых руках. Нашы марскіе сілы на поўначы ад Эзэля мелі ўдачные для нас сустрэчы з варожымі марскімі сіламі. Нашы лятуны абкідалі бомбамі Пэрнаў, дзе узняліся вялікіе пажары.

На сухапутным усходнім фронці баевая чыннасць шмат дзе крапчэла.

## КАЛЯ ВАЙНЫ.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). У верасьні нашы ворагі утрацілі ў бітвах на паветры 374 самалёты і 22 лятучые шары. Мы утрацілі 82 самалёты і 5 лятучых шароў.

Ад 1 студня гэтаго году нашы ворагі утрацілі 1962 самалёты, у тым ліку 859 за нашым фронтам.

БЭРЛІН. Паводлуг прыватных вестак з Англіі, ад апошніх налётаў на Лондон было больш 1.000 душ ахвяр. Афіцыальные апавешчэньня кажуць толькі аб 200 забітых і 400 раненых. Страты ў меньні незвычайна вялікіе. Вельмі пацярпелі цэнтральная тэлеграфная станцыя, англіцкі банк, вагзал Чарінг Крос і глаўны мост цераз Тэмзу.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Узяты намі пры дабываньні Эзэля расейскі мінаносец «Гром» затануў.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). У паўночных водах нашы падводные лодкі ізноў затапілі 16.000 тонн.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). У блокадным поясе навакол Англіі ізноў затоплено некалькі параходаў і парусьнікоў.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Падводная лодка № 39 затапіла ў ваколіцах Гібралтару 5 параходаў ёмкасьцю разам больш 26.000 тонн.



Друкавана у друкарні М. Кухты. Выдавецтво «Гоман». Редактар Язэп Салавей.